ПРАВАабарончы ВЕСНІК
СПЕЦВЫПУСК
ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

Арышт Алеся Бяляцкага каментуе Валянцін Стэфановіч
СТАР. 3

Пікеты ў абарону Алеся Бяляцкага заяўлены ў 17 гарадах
СТАР. 4



# ТЭРМІН УТРЫМАНЬНЯ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА ПАД ВАРТАЙ ПРАЦЯГНУТЫ НА 2 МЕСЯЦЫ

**12 жніўня, у межах крымінальнай справы, узбуджанай па ч.2 арт. 243 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь - "утойваньне прыбыткаў у асабліва буйным памеры" - старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна", віцэ-прэзідэнту FIDH Алесю Бяляцкаму прад'яўлена абвінавачаньне.**

12 жніўня, разам з выстаўленьнем Алесю Бяляцкаму абвінавачаньня тэрмін утрыманьня праваабаронцы пад вартай быў працягнуты на 2 месяцы.

Старшыня Праваабарончага цэнтру "Вясна", віцэ-прэзідэнту Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека (FIDH) Алесь Бяляцкі быў затрыманы 4 жніўня. У той самы дзень на офісе "Вясны" і на прыватнай кватэры праваабаронцы прыйшлі вобшукі.

Санкцыя ў межах артыкула, які інкрымінуецца Алесю Бяляцкаму, прадугледжвае пазбаўленне волі на тэрмін да сямі гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

# Amnesty International прызнала Алеся Бяляцкага вязнем сумлення

**Amnesty International заявіла пра гэта 11 жніўня, далучыўшыся да петыцыі міжнародных праваабарончых арганізацый за неадкладнае і безумоўнае вызваленне кіраўніка "Вясны" і віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека Алеся Бяляцкага.**

"Беларусь мае права караць за ўтойванне падаткаў як за злачынства. Але абвінавачванні, прад'яўленыя Алесю Бяляцкаму, палітычна матываваныя. Ён - вязень сумлення, затрыманы за ажыццяўленне праваабарончай працы, і ён павінен быць неадкладна вызвалены", - адзначыла эксперт Amnesty International па Беларусі Хэза Макгіл ў заяве арганізацыі ад 11 жніўня.

Паводле яе слоў, адмаўляючы ў рэгістрацыі легітымнай няўрадавай арганізацыі і пазбаўляючы яе магчымасці адкрыта функцыянаваць, Беларусь "не пакідае такім актывістам, як Алесь Бяляцкі, іншага выбару, акрамя як выкарыстоўваць банкаўскія рахункі ў суседніх краінах для фінансавання сваёй працы".

Хэза Макгіл назвала арышт Бяляцкага часткай "даўняга прыгнёту актывістаў грамадзянскай супольнасці і праваабаронцаў, які ўзмацніўся ў сувязі з рэпрэсіямі ў дачыненні да грамадзянскай супольнасці пасля прэзідэнцкіх выбараў у снежні 2010 года". У заяве канстатуецца, што пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года "Вясна" і яе супрацоўнікі патрапілі пад ціск з боку ўладаў, які пастаянна ўзмацняецца на фоне паўсюднага пераследу інстытутаў грамадзянскай супольнасці ў Беларусі.

## Дашліце ліст падтрымкі Алесю Бяляцкаму!

*Праваабарончы цэнтр "Вясна" шчыра дзякуе ўсім, хто даслаў лісты Алесю Бяляцкаму, які знаходзіцца зараз у сьледчым ізалятары на вуліцы Валадарскага ў Мінску! Мы заклікаем усіх не пакідаць Алеся Бяляцка ў адзіноце за каменнымі сценамі. Чалавек, які на працягу 15 гадоў абараняў правы іншых, заслугоўвае некалькі цёплых словаў падтрымкі ў такі няпросты для яго момант.*

*Напішыце ліст Алесю Бяляцкаму і дашліце яго на наступны адрас:*
***220030, г.Мінск, вул. Валадарскага, 2 СІЗА-1***

*Прачытаць аб справе Алеся Бяляцкага можна больш на наступных сайтах:*

- ***spring96.org***
- ***brestspring.org***
- ***harodniaspring.org***
- ***gomelspring.org***
- ***mahilyowspring.org***

# 10 фактаў з жыцця Алеся Бяляцкага

*«Салідарнасць» перагортвае старонкі жыцця праваабаронцы Алеся Бяляцкага, якому пагражае да 7 год турмы, і ўзгадвае, як ён у маладосці ўдзельнічаў у падпольнай групоўцы, за што яму далі ганаровае грамадзянства Генуі і які кампрамат на яго друкавала «Советская Белоруссия».*

1. Алесь Бяляцкі нарадзіўся ў Карэліі ў 1962 годзе. Туды з Беларусі пераехала яго сям'я ў пошуках лепшай долі.
2. Будучы праваабаронца пачаў актыўна размаўляць па-беларуску ў часы студэнцтва. У 1981 годзе ў Гомелі ён першым на факультэце стаў паўсюль размаўляць на роднай мове. Калі ён скончаў універсітэт, там па-беларуску размаўлялі ужо некалькі дзесяткаў чалавек.
3. Алесь Бяляцкі ў маладосці прымаў актыўны ўдзел у нефармальнай, фактычна падпольнай групоўцы. Па яго словах, яе асноўнай залачай была пабудова незалежнай Беларусі. З таварышамі ён набываў друкавальныя машынікі і вырабляў улёткі.
4. Алеся Бяляцкага яшчэ ў 80-я гады вербавала КДБ калі ён быў старшынёй аб'яднання маладых літаратараў «Тутэйшыя». На першым жа спатканні Бяляцкі адмовіўся працягваць нейкія кантакты.
5. Калі Алесь Бяляцкі ў 1996 годзе ўзначаліў «Вясну», то не разлічваў, што яму давядзецца займацца праваабарончай дзейнасцю столькі шмат год. Арганізацыя была створана пасля першых разгонаў вулічных дэманстрацый у Беларусі.
6. У сакавіку 2006 году Вацлаў Гавэл уручыў Алесю Бяляцкаму за праваабарончую дзейнасць прэмію Homo Homini.
7. Алеся Бяляцкі двойчы вылучаўся на Нобелеўскую прэмію ў галіне міру. У 2007 годзе віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, па яго словах, быў у так званым шорт-спісе найбольш верагодных кандыдатаў.
8. Муніцыпалітэт гораду Генуя ў 2010 годзе надаў старшыні праваабарончага цэнтру «Вясна» ганаровае грамадзянства. Італьянская грамадзкасць такім чынам выказала сваю занепакоенасць сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі.
Ганаровае грамадзянства Генуі надаецца аднаму чалавеку на год. Гэтага статусу ў розныя гады ўдастойваліся такія вядомыя ва ўсім свеце асобы, як Лех Валенса, Міхаіл Гарбачоў, Шымон Пэрэс.
9. На Алеся Бяляцкага, як і на многіх прадстаўнікаў грамадзянскай супольнасці і апазіцыі, у пачатку 2011 года надрукавала кампрамат «Советская Беларусь».

У артыкуле «За кулисами одного заговора...» прысутнічаў «фрагмент электроннай перапіскі па сістэме «Скайп», дзе нібыта Бяляцкі размаўляў пра фінансавыя справы з каардынатарам польскага фонда «Свабода і дэмакратыя».
Па словах Алеся Бяляцкага, такой размовы не было і «Советская Белоруссия» надрукавала ману.
10. Любімы дэвіз Алеся Бяляцкага: «Як будзе, так і будзе». Найлепшая парада, якую, ён, па яго словах, атрымаў: «Трымай язык за зубамі».

**У тэксце выкарыстаны матэрыялы выданняў «Наша Ніва», «Свободные новости», euramost.org, а таксама «Радыё Свабода» і «Еўрарадыё».**

*4 жніўня 2011 г. у Менску быў затрыманы і ўзяты пад варту старшыня Праваабарончага цэнтру “Вясна”, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH) Алесь Бяляцкі. Здарылася тое, што, напэўна, не магло не здарыцца з кіраўніком адной з найбольш актыўных праваабарончых арганізацыяў ва ўмовах жорскага аўтарытарызму, у якіх знаходзіцца Беларусь на працягу апошніх 17 гадоў.*

Аднак пры гэтым узнікае шэраг пытанняў: чаму гэта адбылося зараз, а не, скажам, у 2006-ым ці 2008-ым гадах? Тым больш, што фармальная падстава для крымінальнага пераследу Алеся і іншых сябраў “Вясны” з 2006-га заўсёды была пад рукой сумнавядомы артыкул 193.1 Крымінальнага кодэкса. Балазе, ні Алесь, ні я, ні іншыя сябры “Вясны” не хавалі, што працягваюць дзейнасць у межах арганізацыі, нягледзячы на яе ліквідацыю Вярхоўным Судом Беларусі ў 2003 годзе.
Тое, што Праваабарончы цэнтр “Вясна” аказвае ў тым ліку і матэрыяльную дапамогу ахвярам палітычных рэпрэсіяў і парушэння правоў чалавека, ні для каго не было сакрэтам. Пра месца знаходжання офіса “Вясны” ведаюць практычна ўсе грамадска-палітычныя аткывісты краіны, якія патраплялі пад пераслед з боку ўладаў. За 15 гадоў свайго існавання ПЦ “Вясна” аказаў дапамогу тысячам беларусаў. Пра гэта ведаюць сваякі палітвязняў, сваякі зніклых у 1999-ым годзе палітыкаў, тысячы беларусаў, якія падвяргаліся розным адміністратыўным спагнанням за сваю грамадска-палітычную дзейнасць.

# НА АРЫШТ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

*Праваабаронца Валянцін Стэфановіч*

Падчас падзеяў 2006-га, пост-снежаньскіх падзеяў 2010-га і лета 2011-га ПЦ “Вясна” засведчыў, што можа дзейсна аказваць дапамогу рэпрэсаваным нават ва ўмовах, калі гэтыя рэпрэсіі набываюць масавы характар. Падчас маўклівых акцыяў пратэсту менавіта ў ПЦ “Вясна” былі перададзеныя грашовыя сродкі, сабраныя грамадзянамі у дапамогу рэпрэсаваным удзельнікам акцый. Для мяне асабіста гэта было праявай поўнага і абсалютнага даверу да арганізацыі з боку беларускай грамадзянскай супольнасці і пацверджаннем высокага аўтарытэту “Вясны” ў Беларусі. Усе апошнія месяцы на офісе “Вясны” не сканчаўся наплыў людзей, якія былі арыштаваныя ці ашрафаваныя за тое, што пасмелі пляскаць у далоні на вуліцах родных гарадоў. Прычым працавалі мы і працягваем працаваць фактычна адкрыта, нікуды не хаваючыся.

Працяг на 3 стар.



# На арышт
## Алеся Бяляцкага
(працяг, пачатак на 2 стар.)

*Праваабаронца*
*Валянцін Стэфановіч*

Ведалі пра гэта і спецслужбы краіны. Недарэмна падчас апошніхператрусаў на офісе "Вясны" і асабістай кватэры Бяляцкага супрацоўнікаў КГБ цікавілі выключна фінансавыя дакументы: распіскі, квітанцы і г.д. Таму логіка ўладаў мне падаецца тут абсалютна зразумелай. Летнія "маўклівыя акцыі" засведчылі пра павелічэнне пратэстных настрояў у грамадстве, асабліва на фоне эканамічнага крызісу, ахапіўшага краіну. Улады знаходзяцца ў прадчуванні "гарачай" восені, зімы, а, магчыма, і вясны 2012 г. Знішчэнне структуры, якая аказвае рэальную дапамогу ахвярам палітычных рэпрэсіў, у дадзенай сітуацыі прыярытэт для спецслужбаў. У "Вясне", якая так доўга муляла ім вочы, беларускія улады ўгледзелі сур'ёзную пагрозу. Прычым настолькі сур'ёзную, што, нават разумеючы і ведаючы пра вялікі негатыўны розгалас і магчымыя не менш негатыўныя наступствы, вырашылі-такі ізаляваць Бяляцкага. А гэта не жарты - узяць ды пасадзіць дзейнага віцэ-прэзідэнта адной з найстарэйшых і уплывовых міжнародных арганізацый Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека. Горш было толькі з прэзідэнтам FIDH, які быў расстраляны падчас фашыстоўскай акупацыі Францыі ў гады другой сусветнай вайны. Я ўжо не кажу пра такія рэчы, як праваабарончая міжнародная салідарнасць, якая па сваёй сіле не саступае салідарнасці журналісцкай.

Тым не менш, улады пайшлі на гэтыя крокі, прычым адразу пасля менскіх падзеяў 19 снежня 2010 г. Менавіта з гэтага дня пачаўся асаблівы інтарэс спецслужбаў да "Вясны" дваператрусы на офісе, ператрусы на асабістай кватэры і лецішчы Алеся. Усяго за апошнія сем месяцаў офіс "Вясны" перажыў пяць уварванняў прадстаўнікоў міліцыі і КГБ. А чаго вартая пастаянная дэфамацыя Бяляцага і "Вясны" ў дзяржаўных СМІ. Вядома, што "Вясна" і асабіста Алесь Бяляцкі прынцыповыя і жорскія крытыкі дзеючага рэжыму. Бяляцкі неаднаразова заклікаў да жорсткіх санкцыяў з боку ЕС у дачыненні да рэжыму Лукашэнкі - у сувязі з сістэматычнымі і грубымі парушэннямі правоў чалавека ў краіне. Адзін з такіх выступаў Бяляцкага ў ПАСЕ выклікаў асабліва негатыўную рэакцыю Лукашэнкі і дзяржаўнага тэлебачання. Пасля гэтага мне здалося, што расправа над Алесем - гэта пытанне часу…

> "У "Вясне", якая так доўга муляла ім вочы, улады ўбачылі сур'ёзную пагрозу"

Трэба адзначыць, што ўлады даўно і грунтоўна рыхтаваліся для гэтай "спецаперацыі". Прычым прапрацоўвалі розныя варыянты яе практычнага ажыццяўлення. Ад ужывання артыкула 193.1 Крымінальнага кодэкса ў дачыненні, найперш, да кіраўніка арганізацыі "Вясны" (пра што сведчыць папярэджанне Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь, вынесенае Алесю Бяляцкаму ў лютым гэтага году) да іншых магчымых варыянтаў. І гэты іншы магчымы варыянт быў прадастаўлены спецслужбам Беларусі Мінюстам суседняй Літвы. Вядома, варыянт адправіць Бяляцкага за краты за нібыта ўтойванне падаткаў мае значна больш перавагаў для ўлады, чым ужыванне відавочна палітычнага 193.1 КК. Беларускай і міжнароднай грамадскасці заўсёды можна паспрабаваць растлумачыць, што арыштаваны не праваабаронца, а звычайны "укланіст", які чамусьці не хацеў сплочваць у бюджэт роднай дзяржавы падаходны падатак з замежнай дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсій гэтай жа дзяржавы.

Аб нашых банкаўскіх рахунках у Вільні інфармацыя была перададзеная Мінюстам Літвы ў Беларусь яшчэ ў сакавіку гэтага году. Толькі напрыканцы чэрвеня я і Алесь былі выкліканыя ў раённыя аддзяленні Міністэрства па падатках і зборах, дзе нам былі прад'яўленыя акты камеральных праверак і раздрукоўкі банкаўскіх рахункаў. Прычым на ўсіх дадзеных раздрукоўках стаялі штампы ДФР. Такім чынам, фармальна ДФР мог узбудзіць крымінальную справу ў дачыненні да Алеся як мінімум у чэрвені  на пачатку ліпеня. Аднак не ўзбудзіў. Прычым ні мне ні Алесю не было абмежавана права на выезд за межы краіны, хаця фармальныя падставы для гэтага былі. У Алеся складалася ўражанне, што ўлады адмыслова праз падатковую інспецыю паказалі яму гэтыя дакументы - даючы такім чынам час на роздум. Вядома, для ўладаў Беларусі было б лепей, калі б Бяляцкі сам вырашыў іх праблему - выехаўшы за мяжу, эміграваўшы пад пагрозай крымінальнага пераследу. Скажу шчыра, што мы, сябры Рады ПЦ "Вясна", прапаноўвалі яму такі варыянт, паколькі прадбачылі магчымае развіццё падзеяў. Аднак Алесь адмёў нашыя прапановы. Ён сказаў, што ніколі не з'едзе з краіны і калі ўлады хочуць пасадзіць яго ў турму за тое, што ён дапамагае людзям, то гэта праблема ўладаў.

**Заканчэнне на 4 стар.**

## На арышт Алеся Бяляцкага

(заканчэньне, пачатак на 2 стар.)

Аднак зараз у следства складаная задача. Ім трэба даказаць, што сумы грошай, пералічаныя на рахунак Бяляцкага, з'ўляліся яго асабістым даходам. Згодна з нашым падаткавым заканадўствам, менавіта даход падлягае падаткабкладанню. У дадзеным выпадку гэтыя грошы паступалі на канкрэтна акрэсленыя фондамі мэты і расходваліся выключна на іх.

Мы маем пераканаўчыя доказы таго, што дадзеныя грошы не з'яўляліся асабістым даходам Бяляцкага. Хоць наўрад ці гэтыя доказы будуць пераканаўчымі для нашых суддзяў, якія ўжо даўно ператварыліся ў "хлопчыкаў і дзяўчынак па выкліку" для абслугоўвання чарговых "хапуноў"-сілавікоў. Суд у Беларусі - рэч вельмі прадказальная.

Я ўсведамляю, што арышт Бяляцкага - гэта не апошнія захады ўладаў у дачынні да "Вясны". Калі задача ўладаў заключаецца ў разгроме арганізацыі, то гэта вымагае новых і новых арыштаў. Аднак лепшае, што зараз мы можам зрабіць для Алеся, гэта захаваць дзеяздольнасць арганізацыі.

Мы павінны прыкласці намаганні, каб дапамога ахвярам рэпрэсій не спынялася, як і іншыя накірункі нашай дзейнасці. За 15 гадоў свайго існавання мы пабачылі і зведалі рознае. Мы мусім ісці наперад, бо людзям патрэбная наша дапамога, бо мы патрэбныя людзям. Як кажуць на Усходзе, "Прокопов лает, а караван идёт". Мы будзем змагацца за вызваленне ўсіх палітвязняў, за вызваленне Алеся. І я проста ўпэўнены, што мы хутка ўсіх іх пабачым на волі.

А "таварышам чэкістам і лукашыстам" я хацеў бы сказаць, што вы падавіцеся Бяляцкім і мы, "вясноўцы", прыкладзем для гэтага ўсе свае намаганні.



## Пікеты ў абарону Алеся Бяляцкага **заяўлены ў 17 гарадах Беларусі**

*Праваабаронцы і грамадскія актывісты з розных рэгіёнаў Беларусі падалі ў мясцовыя выканкамы заяўкі на пікеты з мэтай інфармавання грамадскасці пра крымінальны пераслед старшыні ПЦ "Вясна" і віцэ-прэзідэнта Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека Алеся Бяляцкага. Большасць пікетаў запланавана на 22-ое жніўня.*

Менавіта на гэты дзень заяўлены пікеты ў **Гародні** (на ўваходзе ў Каложскі парк), **Барысаве** (каля ўнівермагу "Веста" ці ў любым іншым месцы, прыдатным для інфармавання шырокага кола людзей), **Жодзіне, Баранавічах** (ў Старым парку), **Магілёве** (каля Магілёўскага абласнога дыягнастычнага цэнтру), **Гомелі** (каля ўнівермагу "Гомель", Цэнтральнага рынку і гандлёвага цэнтру "Рэчыцкі"), **Мазыры** (на стадыёне "Спартак"), **Рэчыцы, Берасці, Кобрыне, Віцебску і Наваполацку.**

У Мазыры ўсяго пададзены тры заяўкі на пікет на стадыёне "Спартак" у абарону Алеся Бяляцкага, Мікіты Ліхавіда і ўсіх палітычных рэпрасаваных у Беларусі таксама на 23-е і 27-е жніўня.

У **Маладэчне** пікет у абарону Алеся Бяляцкага заяўлены ў выканкам на 23 жніўня, а ў **Смаргоні і Бярозе** - на 24 жніўня. Бярозаўскія праваабаронцы плануюць правядзенне пікету ў дазволеным ўладамі месцы на гарадскім стадыёне.

На 26 жніўня заяўлены пікет у **Оршы** (у гарадскім парку), на 27-ае - у Свіслачы (ля помніка Кастусю Каліноўскаму).

Актывісты праваабарончага руху збіраюцца выказаць сваю пазіцыю датычна арышту Алеся Бяляцкага, аднак маюць сумневы наконт таго, што гарадскія ўлады дазволяць заяўленыя публічныя мерапрыемствы. За апошнія тры-чатыры гады на пераважную большасць пікетаў у рэгіёнах улады дазволу не давалі.

Рэгіянальныя праваабаронцы таксама распачалі збор подпісаў пад паручальніцтвамі за Алеся Бяляцкага, што будуць дасланы ў пракуратуру горада Мінска.

**Праваабарончы весьнік. Гомельскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь.**
**Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 асобнікаў.**